**№ 142 (264)**
Аўторак, 19 жніўня 1997 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 5.39 | 20.26 |
| Магілёў | 5.42 | 20.22 |
| Гомель | 5.34 | 20.27 |
| Мінск | 5.53 | 20.32 |
| Гродна | 6.09 | 20.47 |
| Брэст | 6.14 | 20.43 |

*Апошняя квадра 25 жніўня.*



**Аляксей Таранаў**, старшы памочнік Генеральнага пракурора:

## "У асобных мытнікаў і пагранічнікаў вельмі хутка з'яўляюцца іншамаркі, будуюцца катэджы... За сціплую зарплату"

На сумесным пасяджэнні калегій Пракуратуры Рэспублікі і Дзяржаўнага камітэта Пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь абмеркаваны вынікі праведзенай органамі пракуратуры праверкі выканання патрабаванняў законаў "Аб Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь" і "Аб Пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь".

Адзначана, што ахова граніцы ажыццяўляецца ва ўмовах складанага аператыўнага становішча. Штодзённа адзначаюцца шматлікія выпадкі яе парушэння. У 1996 годзе і мінулым паўгоддзі выяўлена каля трох тысяч фактаў парушэння граніцы, затрымана больш за 3600 чалавек. Большасць з затрыманых з'яўляюцца нелегальнымі мігрантамі з краін афраазіяцкага рэгіёна.

Сур'ёзную заклапочанасць у праваахоўных органаў і Пагранічных войскаў выклікае паток незаконнага правозу цераз нашу рэспубліку зброі, наркотыкаў, кантрабанды. І гэты паток усё больш павялічваецца, назіраецца кансалідацыя злачынных груп паблізу кантрольна-прапускных пунктаў. Нярэдкія выпадкі подкупу крымінальнымі элементамі супрацоўнікаў мытных органаў і пагранічнікаў, прамыя злоўжыванні з боку работнікаў гэтых структур.

Брэсцкай міжгарнізоннай ваеннай пракуратурай расследуецца крымінальная справа чатырох прапаршчыкаў Брэсцкага атрада пагранічнага кантролю, якія за хабар ставілі ў замежных пашпартах грамадзян адзнакі аб знаходжанні іх за мяжой звыш шасці месяцаў. Гэта давала магчымасць набываць увозімыя машыны без аплаты мытных пошлін.

Злачынная група ў складзе Сакалоўскага, Якімчука і іншых выкрала з аўтастаянкі ў г.Мінску аўтамабіль, нагружаны абуткам на суму больш за 1 млрд. рублёў. Пры выездзе з тэрыторыі рэспублікі ў Літву яны далі хабар у некалькі соцень літаў пагранічнаму нараду, за што тыя без перашкод прапусцілі злачынцаў.

Адпаведныя службы пагранвойскаў недастаткова валодаюць і аналізуюць інфармацыю аб маёмасным становішчы, аб ладзе жыцця пагранічнікаў, якія забяспечваюць кантрольныя функцыі на граніцы. Праведзеныя праверкі паказваюць, што ў асобных мытнікаў і пагранічнікаў, якія працуюць на кантрольна-прапускных пунктах, за сціплую зарплату вельмі хутка з'яўляюцца іншамаркі, будуюцца катэджы і г.д.

Не адзінкавыя і факты злачыннай змовы асобных пагранічнікаў з мытнікамі іншых дзяржаў.

Так, на працягу доўгага часу жыхары Гродзенскай вобласці Петраш, Зубкоў, Карабач і іншыя, выкрадалі ў калгасах і саўгасах ядахімікаты ў вялікай колькасці і па змове з прапаршчыкам Гетманавым і польскімі мытнікамі за хабар, без агляду, праз кантрольна-прапускны пункт "Брузгі" вывозілі ў Польшчу для рэалізацыі.

Па выніках абмеркавання гэтых праблемных пытанняў Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Алег Бажэлка накіраваў ваенным пракурорам загад, дзе запатрабаваў узмацніць пракурорскі нагляд на гэтым участку, прыняць меры па ўдасканаленню каардынацыі дзейнасці па барацьбе са злачыннасцю з адпаведнымі органамі на граніцы.

Журналистское расследование

# Примерно за 40 тысяч долларов депутат Юрий Малумов купил шестикомнатную квартиру у тракторного завода

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель "Народной воли"**

По пролетам лестницы мирного подъезда строящегося дома по улице Некрасова, 28 прогрохотали военизированные "ботинки прыжковые". Боевые парни в униформе вломились на пятый этаж, как будто шли на захват банды убийц или притона наркодельцов. На самом деле так рьяно в один из июльских дней омоновцы брали под охрану... пустующую квартиру номер 139, принадлежащую председателю комиссии по законодательству Палаты представителей белорусского парламента Юрию Георгиевичу Малумову.

В конце июля 1997 года по каналам национального телевидения был предан огласке компромат на человека, который осенью 1993 года в качестве безвестного милицейского сыщика был ближайшим сподвижником кандидата в президенты Александра Лукашенко, поставляя ему сведения, дискредитирующие чиновников правительства Вячеслава Кебича и прочих тогдашних конкурентов шефа.

Почти через четыре года Малумова обвинили по следующим пунктам: 1) отнял квартиру у рабочих Минского тракторного завода; 2) недоплатил за жилье 82 миллиона рублей; 3) отхватил роскошные хоромы в престижном доме улучшенной планировки; 4) обманул доверие президента. При этом как бы само собой подразумевалось: факт, по которому поспешили возбудить уголовное дело, свершился вроде только что.

На самом деле Юрий Георгиевич купил квартиру аж в июне 1996 года. Скандал раскрутили более года спустя.

В хронике существования поста у опломбированного незаселенного жилища, как удалось разведать, имел место такой случай. Владелец квартиры, еще не знавший о ее "аресте", принес кое-что для электриков, работавших в комнатах по его заказу, — и наткнулся на ОМОН. Малумов отнюдь не пытался прорываться на собственные квадратные метры. Кроме голых пола и стен там ничего и не было, а мировая криминалистика еще не знает случая, чтобы кто-либо покушался украсть или взять разбоем и унести на плечах целую квартиру — предварительно выдрав ее из бетонного массива огромного строения в форме буквы "Ш".

Малумов, надо полагать, завидя "черные береты", сразу все понял. В широком смысле слова он наткнулся на собственное творение. В победившей на выборах 1994 года команде Александра Лукашенко, в Администрации президента Юрий Георгиевич курировал так называемую борьбу с коррупцией. В Беларуси она стала надежным инструментом расправы как с политическими противниками власти, так и с угодившими в опалу фаворитами. Пришел срок, и отточенное, в том числе Малумовым, оружие обернулось острием против него самого.

Между тем за новую квартиру общей площадью в 148,1 квадратного метра он заплатил Минскому тракторному заводу 547 миллионов 553 тысячи 99 рублей. Стоимость квадратного метра устанавливалась в марте 1996 года, когда официальный курс доллара составлял 13 100 "зайчиков". В пересчете на валюту США по тогдашнему курсу за шестикомнатную квартиру МТЗ получил от покупателя примерно 40 тысяч долларов. За жилье клиент рассчитался полностью, по совершенной сделке продавец не имел к нему претензий.

Откуда взялось "преступление"? Много позже, манипулируя изменявшимся, растущим курсом доллара, сыщики из Комитета государственного контроля "пришили" покупателю якобы недоплату в 82 миллиона рублей.

Посаженные возле надежной железной двери малумовской квартиры милиционеры тихо дурели от безделья. До них с верхов просочились слухи, будто резолюцию об учреждении их поста начертал сам президент!

Такого рода резолюции проходили (не могли не проходить) и через Малумова, но до поры они карали других людей. Не без ведома Юрия Георгиевича, в силу его высоких должностей, происходило становление в республике репрессивных органов, антиконституционных и подконтрольных только президенту. Следствием этого госстроительства было и учреждение Комитета государственного контроля. А его нынешний председатель Николай Домашкевич продвигался к назначению не без влияния Малумова, который в Администрации президента одно время распоряжался подбором кадров. Компромат, погубивший политическую карьеру Юрия Георгиевича, вызрел в недрах ведомства Домашкевича, из его стен был выпущен — породив скандал, подхваченный средствами массовой информации.

С начала августа Малумов и Домашкевич, эти два человека, столь странно связанные разразившейся "сенсацией", отбыли в отпуск. Так совпало, что оба отправились в дом отдыха "Беларусь" в Сочи. Быть может, вдали, на берегу Черного моря, темными ночами они поведают друг другу всю правду о случившемся в Минске в июле. Всю подноготную нам, непосвященным, не узнать, наверно, никогда.

На скандальную же улицу Некрасова, ко взятой под арест двери, наведывались и застройщики дома, тракторозаводцы. Иные, подзуживаемые ажиотажем и влекомые любопытством, заглядывали в замочную скважину — надеясь узреть по ту сторону чудеса невиданной роскоши. Однако во внутреннем пространстве не обихоженного новоселами жилья были видны лишь безобидные остатки строительного мусора и пыль. Зрелище совершенно заурядное, и оно никак не соответствовало представлениям о евроремонте и суперотделке.

Вообще на МТЗ главным образом недоумевали: из-за чего, дескать, разгорелся сыр-бор? Там ведь доподлинно известно, что в сданной в эксплуатацию первой очереди дома распределено 75 квартир: 59 — очередникам-тракторозаводцам, 2 — Мингорисполкому, 9 — в порядке компенсации снесенного жилья, 5 — сторонним покупателям на условиях полной оплаты. Кроме Малумова большие квартиры приобрели за 100 процентов их стоимости еще четыре человека.

Посторонним жилье продавали, как и было предусмотрено, как и планировалось. Не от хорошей жизни это делали. Заводским рабочим, инженерам, управленцам трудно было выкупить свои квартиры даже на условиях льготы: 70 процентов платили застройщики, а 30 процентов платило за них предприятие. Стройка требовала средств, и те суммы, которые, по сути, авансом уплатили Малумов и другие, немедленно были вложены в нее. Но и при частичной продаже жилья пока что удалось сдать лишь первую очередь дома. Вторая очередь возводится при хронических финансовых трудностях.

А по телевидению уверяли, будто такие покупатели, как Юрий Георгиевич, обворовали трудящихся тракторостроительного гиганта, лишили их крова.

Искренне негодуя, зачем был устроен демонстративный шмон на всю республику, коллективно-индивидуальные застройщики дома на улице Некрасова, 28 в разгар фальшивой сенсации в открытом письме на имя Лукашенко писали: "... просим прекратить распространение непроверенной информации, убрать милиционеров из подъездов нашего дома, которые караулят с оружием неизвестно кого, пугают своим присутствием жильцов". Обращение разослали в подчиненные президенту газеты, но ни одна не опубликовала документ.

Прямая ложь и примитивные подтасовки подпитывали скандал и в той его части, которая касалась нескольких тракторозаводцев, "замазанных" походя вместе с Малумовым. (Та часть дезинформации требует отдельного разбирательства, к ней надо будет вернуться специально. — **Л.М.**)

Чего стоит хотя бы миф об улучшенной планировке! С нею очень просто разобраться, несмотря на то, из-за ОМОНа нельзя войти в железную дверь. Комнаты недоступны для осмотра в натуре, но в отделе капитального строительства Минского тракторного завода запросто можно раскрыть и этот псевдосекрет, потолковав со специалистами.

**(Окончание на 2-й стр.)**

## У Беларусі арыштаваны 17 мытнікаў

**ЛІДА. Праваахоўныя органы Беларусі раніцай у чацвер арыштавалі 17 супрацоўнікаў мытнай службы Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.**

Як паведаміў прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў чацвер у ходзе нарады з супрацоўнікамі адной з аграфірмаў Лідскага раёна, яшчэ больш за 100 мытнікаў атрымалі розныя віды службовых спагнанняў, а некаторыя будуць пакараны ў адміністрацыйным парадку. Прычынай арыштаў прэзідэнт назваў "хабарніцтва".

"Мы вельмі сур'ёзна ўзяліся за работу мытнага камітэта", — адзначыў А.Лукашэнка. Ён заявіў аб намеры ў бліжэйшы час падпісаць указ, які рэгламентуе выкарыстанне канфіскаваных на мяжы тавараў і грузаў. "Гаворка ідзе аб мільёнах долараў", — сказаў беларускі кіраўнік.

Паводле яго слоў, у рэспубліцы будзе створана спецыяльная дзяржаўная камісія, якая зоймецца размеркаваннем і рэалізацыяй канфіскаваных на мяжы Беларусі тавараў. Продаж "канфіската", лічыць прэзідэнт, здольны значна папоўніць дзяржаўную казну.

У пятніцу, 15 жніўня, кіраўнік дзяржавы мае намер наведаць буйнейшыя ў рэспубліцы пагранічныя пераходы на рубяжы Беларусі і Польшчы "Казловічы" і "Варшаўскі мост".

**Інтэрфакс.**

## Больш за ўсё Павел Шарамет пакутуе ад недахопу інфармацыі

Камера не санаторый: радыё адсутнічае, тэлевізар, што прывёз бацька, не падключаны, газеты чытаць забаронена...

У незвычайных абставінах апынуўся Павел Шарамет у Гродненскім следчым ізалятары. Да гэтага часу яму не дазволілі сустрэцца з роднымі: маці і бацькам, жонкай Наталляй... Падследчы мае магчымасць сустракацца толькі са сваім адвакатам, але ў межах тых нормаў і правілаў, што існуюць у падобнагароду ўстановах.

Як вядома, з 13 жніўня Павел Шарамет аб'явіў папераджальную галадоўку. Ён вымушаны быў пайсці на гэты крок — сапраўдны грамадзянскі ўчынак, каб звярнуць на сябе ўвагу. Бо суддзя Ленінскага раённага суда абласнога цэнтра Гродна Зоя Нікольская не змяніла ў судовым рашэнні ўтрыманне пад вартай на падпіску аб нявыездзе.

Адвакат Гары Паганяйла спрабаваў адгаварыць Паўла Шарамета ад гэтай акцыі. Бо ў падследчага ёсць хранічнае захворванне, якое можа абвастрыцца ў выніку перапынку ў харчаванні. У дадатак напомніў аб сабе бранхіт, які ў сырой камеры пачаў развівацца. Але больш за ўсё Павел Шарамет, па прызнанню адваката, пакутуе ад адсутнасці інфармацыі. А так трымаецца малайцом, псіхалагічна незламаны і ўмее "трымаць" удар лёсу. А папераджальная галадоўка — выбар формы барацьбы і пратэсту супраць дэспатызму ўлад.

Як стала вядома з дасведчаных крыніц, пасля першых двух дзён Павел Шарамет спыніў галадоўку. Але ці будзе гэты перапынак канчатковым, сказаць цяжка. Усё залежыць ад рашэння суда. Пагодзіцца з ім падследчы ці стане прыбягаць да крайняй формы пратэсту, пакажа, безумоўна, час.

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**

Выпадак?

## А суддзя Лаўронаў нічога слухаць не жадае на дзяржаўнай мове. Беларускай...

Пішу аб гэтым з цяжкім пачуццём. І вось чаму. Жыву на Беларусі, а размаўляць, гаварыць па-беларуску мне раптам забаранілі. І не дзе-небудзь, а ў... судзе Першамайскага раёна.

Прызнаюся шчыра: рускай мовай я таксама валодаю. Але калі трэба штосьці адстойваць, упэўніваць у правільнасці сваёй пазіцыі, даказваць (словам, калі даводзіцца хваляваццца), мне лягчэй за ўсё тлумачыць на роднай беларускай, якую я, як кажуць, усмактала з малаком маці. Таму вы павінны зразумець мае адчуванні, калі суддзя — спадар Н.Лаўронаў — у час судовага разбірацельства па іску да мяне з боку былога супруга (звычайная грамадзянская справа) перайшоў на крык, лямант (ці ж варта так сябе паводзіць у, здавалася б, саліднай установе?) і патрабаваў, каб я абараняла сябе толькі па-руску. Калі я адмовілася, то ён спыніў слуханне справы на... няпэўны тэрмін. Цяжка сказаць, што я перажыла і што адчуваў пакрыўджаны знявагай да маці мой дарослы сын, які прысутнічаў у судовай зале.

Такія адносіны "законніка" Н.Лаўронава мяне абразілі. Ён пасягнуў на маё канстытуцыйнае права... гаварыць на роднай (да таго ж — дзяржаўнай!) мове. Нават абітурыентам прадастаўляецца права выбару на ўступных экзаменах: пісаць сачыненне ці адказваць вусна на мове, з якой яны адчуваюць сябе дужэй і "ўтульней". І гарантам тут выступалі не толькі прэзідэнт, а і створаная ім Дзяржаўная кантрольная камісія.

Хто ж абароніць нас, грамадзян Беларусі, ад свавольства, самадурства, дэспатызму ў судах, ад такіх суддзяў, як спадар Н.Лаўронаў? Ці ім дазволена ўсё?

Таму не вельмі я спадзяюся і веру ў справядлівасць вырашэння маёй "справы", хаця і накіравала заяву да старшыні Першамайскага суда г.Мінска А.Крапінчыку. Бо скардзіцца на суддзю ў нас не прынята. А можа, я памыляюся? Дай жа Бог!..

**Ганна ШАРАМЕЦЬЕВА.**

## Вітаўтас Ландсбергіс супраць разгляду справы журналістаў ГРТ літоўскім судом

На думку старшыні Сейма Літвы Вітаўтаса Ландсбергіса, кіраўніцтву краіны трэба з максімальнай асцярожнасцю падыходзіць да свайго магчымага ўдзелу ва ўрэгуляванні сітуацыі вакол затрыманых у Беларусі прадстаўнікоў ГРТ. Як паведамляе літоўскае агенцтва навін "ЭЛЬТА", на думку кіраўніка парламента, можна дапусціць верагоднасць таго, што беларускі суд задаволіць хадайніцтва адваката затрыманых аб перадачы іх справы на разгляд літоўскага суда. Паколькі асноўным пунктам абвінавачання з'яўляецца незаконнае перасячэнне журналістамі беларуска-літоўскай граніцы, следства па ім можа весціся як беларускім, так і літоўскім бокам.

Аднак такі ход падзей, паводле слоў Ландсбергіса, выгадны выключна беларускаму боку. Даючы згоду на разгляд гэтай справы, Літва тым самым юрыдычна прызнала б абгрунтаванасць абвінавачанняў, выстаўленых у адносінах да журналістаў беларускімі праваахоўнымі органамі.

Зыходзячы з гэтага, Вітаўтас Ландсбергіс прапануе выканаўчай уладзе Літвы "не пападацца ў пастку" і не даваць згоды на разгляд справы журналістаў ГРТ літоўскім судом.

**БелТА.**

Стоп-кадр



*Центральная база развертывания инженерных войск Могилевского района приняла очередную группу новобранцев. А иеромонах собора Трех Святителей Серафим окропил строй солдат святой водой, напутствовал их успешно овладевать ратным мастерством.*

**Фото Николая ТИТОВА, БелТА.**

Крымінал

## Хто гвалтаўнік?

Злачынствы на сексуальнай глебе ўсё часцей учыняюць падлеткі. І аб'ектамі насілля таксама становяцца дзеці. Вось толькі два выпадкі, пра якія расказаў карэспандэнту БелТА супрацоўнік прэс-службы МУС рэспублікі Васіль Курловіч. 14 жніўня ў Барысаўскі РАУС звярнулася навучэнка аднаго з мінскіх ПТВ, якую напярэдадні вечарам у лясным масіве каля вёскі Струпень згвалцілі навучэнец сталічнага ПТВ і мясцовы дзевяцікласнік. 12 жніўня ў Чыгуначны РАУС Віцебска звярнулася мясцовая жыхарка. Як высветлілася, яе 4-гадовую дачку згвалціў не абцяжараны ні працай, ні вучобай жыхар Віцебскага раёна 1983 года нараджэння. І хоць тыя, хто ўчыніў злачынствы, яшчэ падлеткі, падкрэсліў прадстаўнік праваахоўных органаў, адказваць ім прыйдзецца па ўсёй строгасці закона.

## Смерць рэцыдывіста

Супрацоўніка крымінальнага вышуку Фрунзенскага РУУС сталіцы ў кватэру нідзе не працуючага, які жыве па вуліцы Бірузова, прывяла неабходнасць правесці неадкладныя аператыўныя мерапрыемствы па пададзенай заяве аб крадзяжы. Тут ён і ўбачыў раней неаднаразова судзімага жыхара Мазыра, які знаходзіўся да таго ж, як пазней высветлілася, у рэспубліканскім вышуку за ўчыненае вымаганне.

З кухні рэцыдывіст адкрыў па 23-гадоваму міліцыянеру стральбу з пісталета. Адна з куль трапіла ў твар аператыўніку. Аднак, нягледзячы на раненне і складанасць сітуацыі, лейтэнант злаўчыўся і з табельнага пісталета прыцэльным выстралам у галаву зваліў на месцы бандыта.

**Сяргей ЦІВАНАЎ, БелТА.**

"Разборки"

## В Бресте убит "смотрящий" по городу

В середине минувшей недели на стыке вечера и ночи убит главный криминальный "авторитет" Бреста 43-летний Александр Стасюк. Его тело найдено на газоне в привилегированном центральном районе Бреста — так называемом Царском Селе — с колотой раной шеи и тремя ранами в теменной части головы. Установлено, что удары наносились заточкой. По мнению милиции, с большой долей вероятности можно утверждать, что на углу улиц Гоголя и Коммунистической тело было просто выброшено из машины, само же убийство происходило в другом месте.

Четырежды судимый (за изнасилование и мошенничество), Стасюк имел в воровском мире клички Стальной и Стас. Под последней и знал его в Бресте без малого весь город, хотя, конечно, мало кто в лицо.

В блатном мире Стас имел большой авторитет и в конце прошлого года, был "коронован" "смотрящим" по Бресту. В его задачи входило: содержание воровской казны — "общака", вершение справедливого по воровским законам суда над "братвой" за всякого рода провинности, определение правых в споре сторон. Следил он и за облегчением участи находящихся в колониях осужденных, в чем, говорят, преуспел.

По сведениям милиции, в последнее время со Стасом что-то происходило — он буквально не знал удержу по части спиртного. Это, а также сам характер совершения убийства посредством заточки дает следствию основание рассматривать в качестве одной из основных версий банальную пьяную ссору, на сленге милиции — "бытовуху". Если бы все оказалось так просто...

Уже достаточно давно просматривается тенденция к серьезному переделу давно поделенного воровского мира с его сферами влияния. Брест, со снятием границы стремительно обретающий статус "западных ворот" России, грезится в бриллиантовых мечтах руководителям многих удаленных преступных группировок, особенно российских. Огнестрельные "разборки", еще недавно для этих мест невероятные, все чаще тревожат размеренный ритм центральных брестских улиц. Совсем недавно на улице Ленина в полусотне метров от областного Управления внутренних дел был обстрелян крымский "авторитет" Саид. Да и сам Стас не так давно получил пулевое ранение в ногу. Более того, есть сведения, что его даже специально вывозили для "сдачи позиций" в Москву — результат той бескровной, но наверняка суровой столичной "разборки" нам неизвестен.

Любопытно, что две недели назад в Бресте был смертельно ранен другой Стасюк — Николай, являвшийся "смотрящему" не более чем однофамильцем, но также не чуждый теневому миру. Не таится ли здесь какой-нибудь ключ к разгадке?

Так или иначе, убийцу (или убийц) активно ищут, дабы предъявить ему обвинение по ст. 100 УК.

**Павел ЕСИПОВ.**

Ну і ну!

## Бабуля пацярпела за ўнука

Жыхарка Друскінінкая Марыя Карачун, якая ўжо два дзесяткі гадоў працуе санітаркай у санаторыях гэтага курорта, пастаянна ездзіла па візе, выдадзенай беларускім пасольствам, да сына, які жыве ў беларускім пасёлку Парэчча. Вяртаючыся дадому, яна часта брала з сабой чатырохгадовага ўнука, не падазраючы, што тым самым сур'ёзна парушае Закон аб дзяржаўнай граніцы. Каб не прыдзіраліся пагранічнікі, жанчына сама запісала ў сваім пашпарце прозвішча і імя ўнука.

Усе было добра да таго часу, пакуль не звярнуў увагу на гэты запіс у пашпарце прыдзірлівы літоўскі пагранічнік. Ён адправіў бабулю ў паліцыю, дзе яна ва ўсім шчыра і прызналася.

Супраць Марыі Карачун узбуджана крымінальная справа. Ёй прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне ў пашкоджанні літоўскага пашпарта і сістэматычным правозе праз граніцу нелегала. За гэта любячай бабулі пагражае пакаранне — пазбаўленне волі ад 10 да 15 гадоў.

Літоўская газета "Рэспубліка", якая апісала гэту сумную гісторыю, вельмі рэзка крытыкуе праваахоўныя органы за тое, што яны не ўбачылі ў здарэнні малазначнасці парушэння закона, а падышлі да фактаў фармальна.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**

Паразважаем?

## Аб чым нагадваюць лічбы... нашай беларускасці

Аб нацыянальным складзе Беларусі можна меркаваць толькі па даных усесаюзнага перапісу 1989 года. Згодна з імі, 77,9 працэнта насельніцтва нашай краіны складаюць беларусы. Другая па велічыні нацыянальная група — рускія. На 1989 год у нас пражывала 1 млн. 342 тысячы (13,2 працэнта) прадстаўнікоў рускай нацыянальнасці. Між іншым, у Расіі налічвалася амаль столькі ж беларусаў — 1 млн. 206 тысяч чалавек. Многа ў Беларусі таксама палякаў (у 1989 годзе іх было 418 тысяч чалавек) і ўкраінцаў (291 тысяча). Усяго ў Беларусі пражываюць прадстаўнікі больш 100 нацый і нацыянальнасцей.

Па даных перапісу 1989 года, беларускай мовай свабодна валодалі 77,8 працэнта ўсяго насельніцтва Беларусі, а роднай яе лічылі 65,6 працэнта. Для параўнання: рускай мовай свабодна валодалі 82,7 працэнта, роднай жа яе лічылі толькі 31,9 працэнта жыхароў нашай краіны. Праўда, трэба зазначыць, што з анкетаў не вынікае, якую менавіта мову чалавек лічыць роднай: на якой ён упершыню навучыўся гаварыць, на якой ён думае або тую, на якой ён размаўляе кожны дзень?

Внимание!

## Не останьтесь без "Народной воли" в четвертом квартале

Хотя подписку можно было оформить на все второе полугодие, часть читателей смогла выкроить из своего скромного бюджета деньги лишь для подписки на третий квартал. Чтобы не остаться без "Народной воли" в октябре — декабре, не забудьте до 10 сентября заглянуть в ближайшее почтовое отделение или пункт "Белсоюзпечати" и продлить подписку. Что такое 29.000 рублей? Стоимость одного скромного обеда. А отдав эту сумму на подписку, Вы будете целый месяц с любимой "Народной волей". Наш индекс: 63222.

**Вы — с "Народной волей"!**
**"Народная воля" — с Вами!**

